МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 6 (158)
чэрвень 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:

### БЕЛАРУСЫ ПАМЕЖЖА ПРАВЯЛІ КАНФЕРЭНЦЫЮ Ў ЛАТВІІ І ЛІТВЕ

Напрыканцы чэрвеня адбыла-ся 2-я канферэнцыя міжнароднай канфедэрацыі беларусаў памежжа.

*Чытайце на стар. 2*

### Я "НАРАДЗІЎСЯ" ТАМ: ЛЁЛЯ МІХАЛЮК, ГАНАРОВАЯ СТАРШЫНЯ ЗБВБ (МАНЧЭСТЭР)

Пазнаць пані Алену, якая сустракала нас на чыгуначнай станцыі Манчэстэра, было лёгка: так сярод чужых вылучаеш свайго...

*Чытайце на стар. 4*

### ПЕРШАДРУКАР І ПЕРШЫ ЭМІГРАНТ, АБО ЯК "КНІЖНЫЯ" БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА ДАСЛЕДАВАЛІ СКАРЫНУ

Серыя "Бібліятэка Бацькаўшчыны" папоўнілася юбілейным, 25-м, выданнем. Гэта кніга беларускага архівіста Лявона Юрэвіча "Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія", у якой пад адной вокладкай сабраныя скарыназнаўчыя дакументы беларускай эміграцыі.

*Чытайце на стар. 5*

### ПРЫ МЗС БЕЛАРУСІ ПАЧАЎ ДЗЕЙНІЧАЦЬ КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫ САВЕТ ПА СУВЯЗЯХ З БЕЛАРУСАМІ ЗАМЕЖЖА

1 ліпеня 2015 года ў Мінску адбылося першае пасяджэнне Кансультацыйнага савета па сувязях з беларусамі замежжа.

*Чытайце на стар. 7*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## ШОСТЫ ,.!ADNAK: ГОДНЫ ШЛЯХ ФЕСТЫВАЛЮ




За што мы любім фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі ,.!adnak (сёлета назва прапісваецца менавіта такім чынам)? Апроч таго, што ён дае ўяўленне пра тое, "хто ёсць хто ў беларускай рэкламе", фестываль застаецца адной з самых яскравых падзеяў лета.

Перад шостым ,.!adnak'ам, традыцыйна арганізаваным кампаніяй "Будзьма беларусамі!" і парталам marketing.by, паўсталі новыя выклікі. Фестываль праводзіўся ўжо пяць разоў, і як бывае часцяком у такіх выпадках, любое мерапрыемства можа пачаць прабуксоўваць. ,.!adnak жа гэтага лёсу пасьяхова пазбег.

Сёлета журы атрымала 370 заявак ад 150 удзельнікаў.

"Нам як арганізатарам вельмі прыемна адзначыць, што фестываль ідзе наперад і развіваецца. Пра гэта кажа і актыўнасць удзельнікаў фестывалю, і тое, што да нас прыходзяць новыя партнёры і аднадумцы, і што вельмі важна, нашыя ранейшыя партнёры таксама застаюцца з намі. Фестываль мае сацыяльнае значэнне, і гэты складнік захаваецца на будучыню. Мы рады бачыць, што бізнес стаў звяртаць больш сур'ёзную ўвагу на беларускую мову, што расце партнёрства паміж бізнесам і культурнымі ініцыятывамі, расце ўзровень камунікацыі нашых удзельнікаў", – падкрэсліла падчас прэс-канферэнцыі Алена Макоўская, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!"

Акрамя ўласна цырымоніі ўзнагароджвання, фестывальны дзень уключаў у сябе вельмі насычаную і разнастайную адукацыйную праграму, падрабязнасці якой можна даведацца на сайце budzma.by.

Урачыстая цырымонія, на якой пераможцы атрымалі заслужаныя ўзнагароды, традыцыйна прайшла ў цэнтры Ёханеса Раў. Адкрылі фестываль каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" Ніна Шыдлоўская і кіраўнік спецыялізаванага рэсурсу marketing.by Сяргей Скараход.

"Наш фестываль ад пачатку і да сёння спакойна і ўпэўнена трымаецца сваёй яснай місіі: паказаць, што беларуская мова – якасны і сучасны сродак камунікацыі, а наша беларуская гісторыя і культура ёсць бясконцай крыніцай натхнення, – звярнулася да прысутных Ніна Шыдлоўская. – І мы рады, што з кожным годам нашых партнёраў і прыхільнікаў становіцца больш. Дэвіз сёлетняга ,.!adnak гучыць проста – годны шлях рэкламіста. Мы не дарэмна зрабілі галоўнымі героямі нашага фестывалю рэкламістаў. Рэкламіст – гэта творца, які праходзіць свой шлях да мары. Мы заклікаем аб'яднаць намаганні, каб дапамагчы нашай рэкламе прайсці дарогу – ад нерашучай коскі да значнага і ўпэўненага клічніка!"

Пазнаёміцца з падрабязным спісам пераможцаў можна на сайце budzma.by, і можна заўважыць, што 2014 год стаўся годам пераасэнсавання традыцыйнай культуры.

Сёлетні лозунг фестывалю ,.!adnak – "Годны шлях рэкламіста" – выявіўся абсалютна слушным, аднак самым цікавым застаецца іншае пытанне – куды далей пойдзе фестываль. А пра гэта даведаемся ў наступным годзе.

*Паводле Мікалая Левертава*
*Цалкам чытайце на budzma.by*
*Фота – Аляксандр Tarantino Ждановіч*

# БЕЛАРУСЫ ПАМЕЖЖА ПРАВЯЛІ КАНФЕРЭНЦЫЮ Ў ЛАТВІІ І ЛІТВЕ



Напрыканцы чэрвеня адбылася 2-я канферэнцыя міжнароднай канфедэрацыі беларусаў памежжа. Першая канферэнцыя адбылася ў 2012 годзе ў Вісагінасе. Тады ў склад канфедэрацыі увайшлі Беларускае культурна-асветнае таварыства "Уздым" (Латвія), Беларуская абшчына Львоўскай вобласці (Украіна), Беларускі культурны цэнтр "Крок" у Вісагінасе (Літва), Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (Беларусь).

Сёлетняя канферэнцыя адбывалася ў Даўгаўпілсе (Латвія) і Вісагінасе (Літва).

Адным з ініцыятараў стварэння такой канфедэрацыі быў старшыня Беларускага культурнага цэнтра "Крок" Алег Давідзюк. Ён патлумачыў, як узнікла ідэя яе стварэння: "Я працую на беларускай ніве з 1992 года, меў магчымасць знаёмства з беларускімі суполкамі з розных краін. Міністэрствы Беларусі, "Бацькаўшчына" не могуць займацца нашымі лакальнымі праблемамі. Таму ўзнікла ідэя стварэння канфедэрацыі, якая б каардынавала дзейнасць самых актыўных беларускіх суполак памежжа. Хацелася б, каб да канфедэрацыі далучыліся ўдзельнікі са Смаленшчыны, Браншчыны, Пскоўшчыны, іншых памежных рэгіёнаў".

Адкрыццё Другой канферэнцыі адбылося ў Беларускім культурным цэнтры Даўгаўпілса. Удзельнікаў віталі дырэктар цэнтра Жанна Раманоўская, якая распавяла пра працу цэнтра, бібліятэкі пры ім і больш чым 20-гадовую дзейнасць беларускай суполкі "Уздым", а таксама арганізатары канферэнцыі Людміла Сіняўская ды Вольга Паўловіч, якія ўручылі ўсім памятныя падарункі. Сябра таварыства "Уздым" Галіна Сантоцкая сустрэла дэлегатаў песняй ды хлебам-соллю.

У пасяджэннях бралі ўдзел сябры беларускіх арганізацый Латвіі, Літвы, Украіны, кіраўнікі консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе Юрый Давыдоўскі і Уладзімір Клімаў, а таксама пасланнік амбасады РБ у Літве Людміла Татарыновіч. З Мінска на канферэнцыю завітала прэс-сакратар Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алеся Башарымава, якая зачытала вітанне ўдзельнікам канферэнцыі і ўручыла падарункі ад Згуртавання беларускім культурным цэнтрам у Даўгаўпілсе і Вісагінасе.

Сваё вітанне ўдзельнікам даслаў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў, які прысутнічаў на 1-м з'ездзе канфедэрацыі. Ён падкрэсліў, што мэты канфедэрацыі рознабаковыя і тычацца не толькі спраў культуры. Альфонс Аўгуліс – першы пасол Літвы ў Беларусі, старшыня клуба "Гервечай" у вітальным выступе звярнуў увагу на важнасць ролі беларускіх школ у краінах памежжа.

Дырэктар Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі Лілія Плыгаўка адзначыла, што памежжа – унікальная тэрыторыя, дзе багата міжнацыянальных судакрананняў культур. Спадарыня Лілія заклікала беларусаў памежжа збіраць матэрыял у сваіх асяродках, аблічбоўваць архівы, завязваць кантакты з навуковымі ўстановамі і прыватнымі даследчыкамі, вывучаць, як праяўляецца беларуская культура ва ўмовах памежжа, як яна ўплывае на культуру рэгіёну.

Падчас канферэнцыі ў склад канфедэрацыі былі прынятыя новыя сябры. Імі сталі арганізацыі – Усеўкраінскае аб'яднанне "Беларусь" і клуб "Гервечай", а таксама прыватныя асобы – Станіслаў Валодзька і Валерый Амбросаў з таварыства "Уздым", Віктар Камісарук, Альфонс Аўгуліс, а таксама дырэктар нядзельнай беларускай школы ў Львове і цяперашняя новая старшыня тамтэйшай беларускай суполкі Тамара Казак.

Падчас канферэнцыі былі прынятыя некалькі дакументаў. У прыватнасці, зварот да арганізацыі "Еўрарэгіён – Азёрны край" з прапановай супрацоўніцтва, зварот да літоўскага і беларускага ўрадаў аб хутчэйшым адкрыцці памежных пераходных пунктаў на мяжы Літвы і Беларусі на ўчастку Браслаўскага і Пастаўскага раёнаў, а таксама зварот да беларускіх арганізацый краін-суседак Беларусі.

Сустрэчы-канферэнцыі пастанавілі ладзіць штогод. Для гэтага была абраная каманда каардынатараў, у якую ўвайшлі Максім Дубянок (Беларусь), Віктар Камісарук (Украіна), Людміла Сінякова (Латвія), Ірына Кузняцова (Літва).

У вольны час для ўдзельнікаў канфедэрацыі была зладжаная культурная праграма: выступы беларускіх спеўных калектываў, канцэртна-забаўляльная праграма "Ліга-Ёнінэс-Купалле", знаёмства з выставай латгальскіх мастакоў, экскурсіі па Даўгаўпілсе і Вісагінскім парку, наведванне музея Марка Роткі і найстарэйшага дуба ў Еўропе.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНЫ РУХ МАЛДОВЫ АДЗНАЧЫЎ ПЕРШУЮ ГАДАВІНУ

Беларускі культурны рух Малдовы (БКРМ) нядаўна адзначыў першую гадавіну сваёй этнакультурнай дзейнасці. БКРМ – маладое самастойнае грамадскае аб'яднанне беларускай дыяспары Рэспублікі Малдова са свежымі поглядамі і ініцыятывамі для людзей, якія адносяць сябе да беларускага этнасу альбо праяўляюць цікавасць да беларускай культуры. Сёння ў нашых шэрагах каля 100 чалавек, якія падтрымліваюць нашы ініцыятывы і пачынанні.

Урачыстае святкаванне адбылося ў Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова і сабрала шмат сяброў аб'яднання, высокапастаўленых гасцей і прадстаўнікоў этнакультурных аб'яднанняў у Малдове. Прагучала шмат цёплых сяброўскіх слоў як на адрас самога аб'яднання і яго актыву, так і да яго Старшыні спадарыні Ганны Мазур, якая нарадзілася 7 чэрвеня.

Як адзначыў у сваёй прамове Саветнік Пасольства Беларусі ў Малдове Аляксандр Аляксандравіч Салаўёў, за гэты кароткі перыяд Беларускаму культурнаму руху Малдовы, улічваючы цалкам валанцёрскай аснову яго дзейнасці, удалося ўжо вельмі многае, на што іншым аб'яднанням спатрэбіліся б гады.

Самыя актыўныя ўдзельнікі руху былі ўзнагароджаныя Ганаровымі граматамі за значны ўклад у развіццё новага грамадскага аб'яднання, а самыя маленькія сябры Руху атрымалі ад Старшыні Ганны Мазур асаблівую падзяку і Ганаровыя граматы за выдатныя пачынанні.

*Паводле Ганны Мазур*

## КУПАЛЛЕ НА БЕРАГАХ ІРКУТА

27–28 чэрвеня, у адну з самых кароткіх летніх начэй, актывісты Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага як заўсёды шырока адзначылі сваё самае маштабнае свята – Купалле.

Нягледзячы на тое, што мы штогод праводзім Купалле ўжо амаль дваццаць гадоў запар, сёлета многае на нашым свяце было ўпершыню.

Упершыню свята адбылося на зусім новым месцы – на маляўнічым беразе Іркута, з усіх бакоў аточанага лесам і вадой. У адрозненне ад Ангары, у якой цячэ халодная байкальская вада, Іркут бярэ свой пачатак у Саянскіх гарах, і вада ў ім вельмі цёплая.

Упершыню ў нашым купальскім абрадзе з'явілася яшчэ адно надзвычай цікавае дзеянне – гатаванне на вогнішчы традыцыйнага беларускага сыру. Гэты досвед мы перанялі ў нашых аднадумцаў з Беларусі – Студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Сыр – не толькі найважнейшы прадукт у рацыёне беларусаў, але і сімвал дзявочай чысціні, шлюбнай вернасці, сумленнасці і высакароднасці, белы сыр вельмі часта згадваецца ў мностве беларускіх народных песень, у тым ліку і купальскіх. Наш сыр атрымаўся на славу, і ў наступным годзе мы, безумоўна, паўторым наш эксперымент. Выказваем асобную падзяку Насці Глушко.

Упершыню для шматлікіх дзетак, якіх бацькі бяруць з сабой на свята, мы арганізавалі асобны куток – падвесілі на дрэве арэлі, збудавалі драўлянага "каня", абматалі папарацццю – дзецям сумаваць не было калі!

Трохі змяніўся і сам фармат свята. Раней на месца правядзення з раніцы прыязджала толькі група хлопцаў, якія займаліся падрыхтоўкай вогнішча, а асноўны актыў і госці прыбывалі толькі да дзевяці гадзін вечара, а ў шэсць раніцы ўжо адпраўляліся назад у горад. Цяпер жа з раніцы амаль у поўным складзе прыязджае ўвесь актыў беларускай дыяспары Іркуцка, і празаічная падрыхтоўка месца да свята ператвараецца ў цікавыя сяброўскія зносіны. Госці, як і раней, прыбываюць вечарам і з'язджаюць рана раніцай. Такі падыход да падрыхтоўкі свята быў упершыню намі апрабаваны яшчэ летась, усім спадабалася.

Таксама з мінулага года мы будуем яшчэ адзін прыгожы элемент абраду – браму, сплеценую з галін і траў, праз якую праходзяць усе ўдзельнікі свята, падыходзячы да нашай паляны.

Нягледзячы на амаль дваццацігадовую гісторыю нашай дзейнасці ў Прыбайкаллі, мы не вычарпалі свой патэнцыял, і мы не толькі імкнемся захаваць той сцэнар купальскіх абрадаў, які ў нас склаўся, але і знаходзім магчымасці яго ўзбагаціць і разнастаіць.

*Аляксей Кухта*

## СІБІРСКІЯ БЕЛАРУСЫ З РАЗМАХАМ АДЗНАЧЫЛІ КУПАЛЛЕ




Беларусы расійскай Сібіры адзначылі Купалле. Імпрэзу арганізаваў Іркуцкі моладзевы клуб "Крывічы", дзе адным з завадатараў — вядомы прапагандыст беларускай культуры Алег Рудакоў. На свята ў вёску беларускіх перасяленцаў Ахіны, што месціцца на адвечнай бурацкай зямлі ў Эхірыт-Булагацкім раёне, сабралася блізу паўтысячы чалавек.

Ноч на Івана Купалу адзначаюць не толькі этнічныя беларусы, відовішча прыцягвае і мясцовае насельніцтва.

У гутарцы з мясцовымі журналістамі Алег Рудакоў патлумачыў, што захаванне беларускіх традыцый у вёсцы Ахіны, дзе больш за 100 гадоў таму атабарыліся выхадцы з Беларусі падчас сталыпінскай аграрнай рэформы, — важная частка культурнага жыцця: "Мы спяваем нашыя старыя беларускія песні, многім з іх ужо па 300–400 гадоў. Збіраем гэтыя песні ў этнаграфічных экспедыцыях і з сябрамі клуба "Крывічы" даём ім новае жыццё. Гэтаксама намагаемся адрадзіць архаічнае свята Купалля, якое нашы продкі святкавалі раней".

Івана Купалу ў Ахінах адзначаюць ужо некалькі гадоў запар. Мерапрыемства становіцца папулярным і прыцягвае вялікую колькасць гасцей.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## АМЕРЫКАНСКІ ФОНД ДАПАМАГАЕ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ-ІНВАЛІДАМ

Замежныя беларускі зладзілі свята ў Чэрвеньскім доме-інтэрнаце для дзяцей і моладзі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Дзеці з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі аб'ядналі людзей без межаў: кіраўніцу амерыканскага дабрачыннага фонду "The Saviour" ("Спас") беларуску з Нью-Ёрка Кацярыну Фаронда і скрыпачку з Беларусі, якая жыве ў Вене, Юлію Лебядзенка.

Намаганнямі Кацярыны Фаронда ў Беларусі прайшла штогадовая, ужо дзявятая па ліку, дабрачынная акцыя "Па імені дзяцінства". Гэтым разам яе прысвяцілі ахове навакольнага асяроддзя. На думку Кацярыны, немагчыма казаць пра абарону дзяцей без абароны навакольнага асяроддзя — месца жыцця дзяцей:

"На мой погляд, чысціня прасторавая і чысціня духоўная — узаемазвязаныя паняцці, якія фармiруюць асобу. Цяжка ўявіць адно без другога. Усе дзеці маюць чысціню духоўную ад самага нараджэння. Ці захаваецца яна і ці паболее яе, той чысціні духоўнай, — залежыць ад асяродку, у якім расце дзіцё. А тут ужо можна весці гаворку не толькі пра ўнутраны свет дзіцяці, яго маральныя якасці, але і пра яго фізічнае здароўе. Гэта вельмі важна".

Адметнасць праграмы — у яе падыходзе: гэтым разам сціпла і сур'ёзна, з класічнай музыкай са сцэны — адмысловая музычная тэрапія. Дуэтам скрыпачка Юлія Лебядзенка і піяністка Святлана Стэфаненка выканалі творы Нікола Паганіні ды Фрыца Крэйслера. Святлана яшчэ і рамансы праспявала. Дзеці, абмежаваныя фізічна і разумова, не абдзеленыя эмацыйна. Яны вельмі тонка адчулі мелодыку, настрой скрыпкі: пляскалі ў далоні, усміхаліся, махалі сцяжкамі дабрачыннага фонду "Спас". У зале панаваў добразычлівы настрой.

Паводле слоў дырэктаркі дома-інтэрната Элы Барысавай, дзеці вельмі чакаюць, калі да іх прыедуць неабыякавыя людзі і зладзяць свята. Для гадаванцаў дома-інтэрната гэта адзіная магчымасць пабачыць новыя твары і адчуць прыязнасць да сябе незнаёмых людзей.

У Юліі Лебядзенка гэта ўжо другі выступ для гэтых дзяцей. А ўвогуле, дзяўчына займаецца адраснай дапамогай беларускім дзіцячым дамам і шпіталям. Шмат разоў падтрымлівала акцыі ў дапамогу дзецям з Украіны, Расіі, Сербіі, іншых краін. Дабрачыннасцю не толькі ў Беларусі, але ў іншых постсавецкіх краінах займаецца і Кацярына Фаронда з фонду "The Saviour", які дапамагае і гуманітарнай дапамогай, і спецыяльным харчаваннем для дзяцей з цяжкім генетычным захворваннем фенілкетанарыяй.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# Я "НАРАДЗІЎСЯ" ТАМ: ЛЁЛЯ МІХАЛЮК, ГАНАРОВАЯ СТАРШЫНЯ ЗББВ (МАНЧЭСТЭР)

*Пазнаць пані Алену, якая сустракала нас на чыгуначнай станцыі Манчэстэра, было лёгка: так сярод чужых вылучаеш свайго. Светлы твар, ветлівая ўсмешка, пальцы цярэбяць-перабіраюць торбачку са знаёмым чырвона-белым арнаментам. Дый хата адпавядала гаспадыні: усё па-беларуску звыкла, утульна. Было дзіўнае адчуванне, быццам пасля доўгай вандроўкі па далёкай, няхай і прыгожай, але чужой краіне раптам трапіў дадому, у Беларусь. Ці, можа, гэта пані Алена ніколі і не з'язджала адтуль?*

— Падчас вайны мы з мамай былі ў Нямеччыне, працавалі на немцаў на ферме. А як вайна скончылася, усе пачалі арганізоўваць свае абозы: украінцы, латышы, палякі, рускія. Беларускага спачатку не было, і тыя з нас, хто пайшоў у рускі абоз, адразу былі высланыя без пытанняў — у Сібір ці яшчэ куды. А такія, як мы, хто трапіў у польскі, змаглі застацца на Захадзе. Англія і Амерыка тады запрашалі на працу. Мама выбрала Англію — яна ўсё ж бліжэй да Беларусі. Да 70-х гадоў мы ўсё яшчэ планавалі вярнуцца, усё спадзяваліся — вось-вось паедзем на Беларусь. Але ў 70-я, калі нашыя дзеці падраслі, мы пабачылі, што вяртацца позна.

**— А навошта так доўга чакалі?**

— Бо ніколі не хацелі пад рускімі жыць. Перад вайной мы належалі Польшчы. Як бы там ні было, але хоць чалавек спаў спакойна. Саветы мы чакалі як вызваленцаў. Думалі, будзе свабода, жыццё добрае, мову дазволяць. Але як дачакаліся, дык і пабачылі, якое яно "добрае". Усе знікла ў магазінах, падаткі вялікія, малако нават здавалі, чаго ніколі за палякамі не было. Але найгоршае тое, што пачалі людзей вывозіць. Ноччу прыязджаюць і забіраюць.

За Польшчай, праўда, мы былі вымушаныя ў школе размаўляць па-польску. Да школьнай брамы гаварылі па-беларуску, а як пераступалі — толькі па-польску.

Ідзем першы раз у школу, як саветы прыйшлі, скачам-радуемся, што не патрэбна больш на польскую пераходзіць. Прыходзіць у клас той жа настаўнік, што вучыў нас па-польску. Мы думалі, што ён паляк, а ён: "Добры дзень, дзеткі!" Мы і вочы вытарашчылі — што ж дзеецца! Настаўнік! Па-беларуску гаворыць! Вельмі добра вучыў. Тры месяцы. Аднаго дня ідзем у школу — перад школай стаіць аўто. Заходзім, чакаем настаўніка, а яго ўсё няма і няма. Потым адчыняюцца дзверы, уваходзіць ён у суправаджэнні дзвюх асоб. І кажа: "Дарагія дзеткі, прабачце, я мушу вас пакінуць — еду ў санаторый лячыцца". А ён быў такі высокі, рудаваты. А тады стаяў — белы як папера. Меншыя нічога не зразумелі, але за намі на лаўках хлапцы сядзелі па 15-16 гадоў. Адзін з іх устае і кажа: "Спадар настаўнік, мы ж бачым, што вас арыштоўваюць!" І як пачаў біць рукамі па парце! І мы пачалі і рукамі, і нагамі тупатаць. Настаўнік нічога не сказаў — папросту самлеў. Яго падпахі ўзялі і адвялі ў аўто. Потым мы даведаліся, што яго судзілі як ворага нарога, і ён загінуў недзе ў турме. Дык вось як можна жыць пад такім рэжымам?

**— А як вайна скончылася?**

— У Англіі пасля вайны не хапала працоўнай сілы, вось яна і запрашала. Як прыехалі, мужчыны пайшлі ў капальні і на фермы, а жанчыны — на тэкстыльныя фабрыкі. Мы з мамай трапілі блізка ад Манчэстэра на ферму, падпісалі кантракт на два гады. Спачатку працавала на машынах, якія моцна грукаталі, некалькі тыдняў не чула нічога, а потым прайшло — чалавек да ўсяго прывыкае. Пасля мы пераехалі ў Брадфард. Я таксама пайшла на тэкстыльную фабрыку, але ўжо на больш лёгкую працу, працавала з іголкай. Плацілі нам добра — я зарабляла больш за мужчын. У 70-80-я гады пачалі закрываць фабрыкі. Такія гарады, як Манчэстэр, — гэта працоўныя гарады: ідзеш па іх раней — адны коміны, коміны, фабрыкі. Цяпер толькі дзенідзе пабачыць можна.

У Брадфардзе мы жылі да 1965 года, нарадзілі трох сыноў. А потым у Лондане айцец Надсан сарганізаваў беларускі інтэрнат. І наш старэйшы сын быў там першы вучань. Гэта была магчымасць вучыць дзяцей беларускай мове, гісторыі. Заняткі праходзілі ў суботу-нядзелю, калі быў час, а так дзеці хадзілі ў звычайную англійскую школу. Праз тры гады другі сын паехаў. А як трэцяга сына патрэбна было адпраўляць, дык і мы вырашылі ехаць у Лондан.

Лондан і жыццё лонданскае мне вельмі падабаліся. Гэта, канечне, сталіца: ёсць куды паехаць, што паглядзець. Там і арганізацыя ж была — Згуртаванне беларусаў. Збіраліся разам — гутаркі-вечары, танцы нават. Ніхто нікому нічога не забараняў. Рабі што хочаш, толькі не рабі шкоды.

**— Ці так важна захоўваць самаідэнтычнасць на чужой зямлі?**

— Вельмі важна. Гэта будуе будучыню. Тут беларусы жылі з часоў ВКЛ. Ад іх застаўся след. Нацыя не згіне, я веру. Не цяпер, то пазней адродзіцца. Пакуль будуць людзі.

Я — беларуска, і гэтага ўжо не змяню да смерці. Я прыехала з маленькай вёсачкі, там я нарадзілася, расла, там гаварыла на роднай мове. Гэта святое. Ніхто з тых, хто прыехаў сюды, ад Беларусі не адмовіўся. Кім ты нарадзіўся, тым ты і будзеш да канца. Бо душу ж не зменіш.

Я памятаю, прыйшла да мамы і пытаю: "Мама, там кажуць, што мы палякі. Хто мы ёсць?" Яна кажа: "Дачушка, мы — беларусы". З таго часу, я знаю, хто я.

У Англіі, як мы прыехалі, ніхто не знаў пра нас. Мы не хацелі запісвацца ні палякамі, ні рускімі, але ў спісе нацыянальнасцяў не было яшчэ беларусаў. Таму ў графе "нацыянальнасць" засталося пустое месца. А як толькі абвясцілі незалежнасць, усе пачалі арыентавацца, хто ты, дзе ты.

(…)

**— Новая эміграцыя чымсьці вылучалася ці вылучаецца?**

— Сучаснасць бярэ сваё. Тут шмат бізнесоўцаў-беларусаў, але яны толькі бізнес робяць, нічым больш не цікавяцца. Мы не прыехалі па бізнес ці лёгкае жыццё. Мы страцілі Радзіму, нам не было куды вяртацца. Куды прывезлі нас — там і пачалі жыць. Яны — не.

*У пані Алены свой невялічкі гарод каля дома. Тут адчуваеш сябе як у бабулі на вёсцы: звыклыя для вачэй яблыні, кусты з ягадамі, у канцы кастрычніка — дзе-нідзе былі трускалкі і маліны. Нам нават давялося пакаштаваць. Дажджу тут шмат, а таму трускалкі не такія як ў нас — вадзяныя вельмі. Усё, вядома, любіць сонца.*

— Гарод маленькі, але мне хапае! — кажа пані Алена. — Ёсць што рабіць — пакуль пачысціш, праполеш… дзеці жывуць недалёка, на суседняй вуліцы, наведваюцца часцяком, але з гародам дапамагаюць толькі калі папрасіць — ці то плот падвязаць, ці то яшчэ што зрабіць — у іх сваіх спраў поўна. У гэтым гародзе ніхто столькі не сядзеў, як мой сын, калі вось нядаўна прыязджаў. Рана ўстане, зробіць каву, запаліць папяросу і сядзіць — адпачывае.

**— Лёгка марыць у 18, а вы цяпер марыце? І пра што?**

— Цяжка адказаць. Пра што я магу цяпер марыць? Улічваючы, што я ўсё жыццё аддала грамадскай справе, якую пачала яшчэ дзяўчынай у Нямеччыне, мара мая — пра сапраўдную незалежнасць Беларусі. Каб не загінулі наш сцяг, наша Пагоня, мова. Няхай без мяне — але толькі каб існавала. Ну, а другое — каб дзяцей добра пакінуць. Бачыце, бацькі так заўсёды пра дзяцей. Старэйшаму майму сыну ўжо за 60, але ўсё роўна хочацца пакінуць іх у добрым стане. Ну і яшчэ — каб дажыць жыццё без пакут, без хваробаў. Спакойна адысці на той свет.

*Паводле budzma.by*

# ПЕРШАДРУКАР І ПЕРШЫ ЭМІГРАНТ, АБО ЯК "КНІЖНЫЯ" БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА ДАСЛЕДАВАЛІ СКАРЫНУ

Серыя "Бібліятэка Бацькаўшчыны", што была заснаваная ў 2004 годзе Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", папоўнілася юбілейным, 25-м, выданнем, якое выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор". Гэта кніга беларускага архівіста Лявона Юрэвіча "Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія", у якой пад адной вокладкай сабраныя скарыназнаўчыя дакументы беларускай эміграцыі.

Не сакрэт, што нашага першадрукара часам называюць яшчэ і "першым беларускім эмігрантам", які, аднак, і за межамі сваёй Радзімы працягваў думаць пра яе і дзеля яе працаваць. Нядзіўна, што асоба Скарыны цікавіла многіх беларускіх знаўцаў, якія воляю лёсу апынуліся ў іншых краінах, але не жадалі выракацца свайго краю і забывацца на яго.

Як адзначае ў прадмове рэдактар кнігі — гісторык Наталля Гардзіенка — постаць Скрыны нароўні з Еўфрасінняй Полацкай сталася найбольш знакавай для беларускіх эміграцкіх суполак, а яго асоба была блізкай і духоўным, і свецкім людзям, дзеячам у самых розных сферах — бо дзейнасць самога Скарыны была вельмі разнастайная.

Варта адзначыць, што менавіта на эміграцыі скарыназнаўства атрымала вялікія магчымасці для развіцця: тут, у адрозненне ад Савецкай Беларусі, даследчыкі не былі звязаныя ідэйнымі абмежаваннямі і мелі доступ да дакументаў, датычных дзейнасці нашага слыннага земляка. Імя Скарыны зрабілася вядомым і па-за межамі беларускіх колаў, а яго маштабная дзейнасць стала адным са сведчанняў еўрапейскасці беларускай культуры.

Наталля Гардзіенка пракаментавала працу над кнігай так: "Рэдактарская праца з кнігай Лявона Юрэвіча "Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія" была цікавай і складанай найперш праз тэматычную разнастайнасць тэкстаў. Скарынава традыцыя на эміграцыі — гэта не толькі тэксты ўласна пра першадрукара, што пісаліся і беларусамі ў міжваеннай Празе, і студэнтамі ў паваеннай Нямеччыне, і навукоўцамі ў заходніх універсітэтах. Гэта таксама маркі, календары, кнігавыданне, уласна эміграцыйныя рэаліі — Скарыну часам называюць першым вядомым беларускім эмігрантам.

Для мяне надзвычай важнымі выглядаюць у кнізе лісты аднаго з найбольшых эміграцыйных скарыназнаўцаў Вітаўта Тумаша, постаці недастаткова ацэненай сёння ў Беларусі. Гэтая карэспандэнцыя выдатна адлюстроўвае і асаблівасці эміграцыйнага кнігавыдання, і дачыненняў, ці нават пэўнага спаборніцтва навукоўцаў у Беларусі і на Захадзе ў скарыназнаўчых даследаваннях.




Лявон Юрэвіч прадстаўляе ў кнізе постаці розных спадкаемцаў Скарыны ў яго працы — кніжнікаў, пісьменнікаў, даследчыкаў: Міколы Панькова, Яна Пятроўскага, Васіля Шчэцькі, Вацлава Пануцэвіча, Кастуся Якуба-Птаха, Норберта Рандава. Дый сам аўтар-архівіст выступае гэткім жа прадаўжальнікам Скарынавай справы.

З кнігай звязаныя некалькі важных сімвалічных момантаў: тое, што выходзіць яна ў год, калі святкуецца своеасаблівы Скарынавы юбілей – 525 гадоў ад прынятай даты нараджэння першадрукара, тое, што самому аўтару сёлета спаўняецца 50 гадоў, і тое, што прысвячаецца гэтая кніга памяці яшчэ аднаго нашчадка Скарынавай справы — айца Аляксандра Надсана, які сёлета адышоў".

Кніга "Эмігрант Францыск Скарына" выдадзеная сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, што ў Нью-Ёрку. Працоўны тандэм Юрэвіча і Гардзіенка — руплівых сябраў БІНіМа — стварыў ужо нямала кніг, заснаваных на дакументальнай спадчыне беларускай эміграцыі.

Лявон Юрэвіч гаворыць: "Я не гісторык, не філолаг. Я — архівіст, і, бадай, усе мае кнігі, за сціплым выняткам, — кнігі менавіта архіўныя. У тым ліку і гэтая новая — пра Скарынаву справу на эміграцыі. У нашых умовах, калі эміграцыяй займаюцца адзінкі, не можаш дазволіць сабе раскошу — даследаваць нешта адно. Тым болей, калі большасць публікацыяў цябе не задавальняе: у аўтараў элементарна не стае матэрыялу — архіваў, фактаў, тых самых лістоў, напрыклад, ведання канкрэтных людзей, учынкаў і іх матывацыі, што спараджае або фантазіі, або банальшчыну. Таму і скочыш ад тэмы да тэмы, ад СБМ да літаратуры, ад будзённасці да біяграфістыкі ў намаганні даць іншым як мага болей тае глебы, на якой можна збудаваць новыя працы.

Скарына ў гэтым шэрагу — рэч натуральная. Беларусу наагул складана абмінуць такую постаць, а кніжнаму чалавеку — проста немагчыма. Збіралася пра яго, без аніякай канкрэтнай ідэі, ад 1995 года, ад часу працы над паказнікам літаратуры "Францыск Скарына: жыццё і дзейнасць", што быў як бы працягам Тумашавай "Скарыніяны" (1989). І вось урэшце ўсё набыло такія абрысы: кнігі пра тое, кім Скарына быў для беларусаў на эміграцыі, чым ён быў, і пра ўсіх тых, знаных і малавядомых кніжнікаў, якія кожны ў меру сваёй здольнасці, таленавітасці, працягвалі ягоныя традыцыі — як маглі.

Гэтым зробленым і апраўдваемся".

Кнігу "Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія" ўжо можна набыць у кнігарнях Мінска:

"Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72),

кнігарня "логвінаЎ" (пр-т Незалежнасці, 37А),

"Кнігарня пісьменніка" (вул. Казлова, 2),

"Веды" (вул. К.Маркса, 36),

"Цэнтральны кніжны" (пр-т Незалежнасці, 19),

"Кнігі & кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14).

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# БЕЛАРУСЫ Ў МАСКВЕ: "ВЯРНУЦЦА ДАМОЎ — ГЭТА МАРА"

Маладыя беларусы Дзяніс Лапуноў і Раман Салахаў расказалі "Нашай Ніве" аб сваім жыцці ў сталіцы Расіі.

Абодва хлопцы трапілі ў Маскву падобным чынам: трохі раней іх бацькі пераехалі туды працаваць — у Дзяніса маці, у Рамана бацька. 19-гадовы Дзяніс скончыў у родным Віцебску 9 класаў, а затым паехаў да матулі. У Маскве ён скончыў каледж, затым уладкаваўся на працу. Цяпер вучыцца на завочным у машынабудаўнічым універсітэце, падпрацоўвае менеджарам па лагістыцы.

Раман пераехаў да бацькі пасля сканчэння мінскага БДУІРа, дзе вучыўся на маркетолага-эканаміста. Цяпер працуе па спецыяльнасці ў IT-сферы.

Абодва хлопцы — каталіцкія вернікі, нават пазнаёміліся яны ў хрысціянскім інтэрнаце.

"У нашым касцёле — гэта Кафедральны сабор Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі — існуе прадстаўніцтва салезіянцаў. Яны працуюць з моладдзю і побач з храмам стварылі такі хрысціянскі інтэрнат для студэнтаў. Гэта нашмат танней, чым здымаць кватэру. І вось мы трапілі ў адзін з "нумароў" гэтага інтэрната, так і пазнаёміліся", — распавядае Раман.

Жыллё ў гэтым інтэрнаце добрае. Па сутнасці, хлопцы жывуць у чатырохпакаёвай кватэры ў цэнтры горада. У кожным пакоі па два чалавекі.

Прычым да кожнага пастаяльца падыходзяць індывідуальна — плаціш, колькі можаш.

Калі грошай няма ці часовыя праблемы з імі, на вуліцу цябе ніхто не выкіне. Хрысціяне ўсё ж.

Дзяніс у Маскве каля 2 гадоў. Раман — амаль 4. Але ацэньваюць мегаполіс яны амаль што аднолькава.

"Масква і для Расіі — нетыповы горад. З аднаго боку, тут вельмі шмат даброт аў цывілізацыі. З іншага — людзі жывуць даволі адасоблена. Адкрытасці я не заўважыў. Калі б не было касцёла, то было б цяжка, — прызнаецца Раман. — Часта людзі, якія жывуць у Маскве ці прыязджаюць сюды, проста замыкаюцца: дом, праца — і ўсё".

"Мне пасля пераезду жылося не вельмі салодка. Першы семестр у каледжы — пякельны час. Я вучыўся на аўтамеханіка. Гэта была звычайная працоўная вучэльня, як тут кажуць, — "шарага". І так я і жыў: дом, вучэльня. Ну, яшчэ хадзіў у касцёл Святога Людовіка, — кажа Дзяніс. — Але потым зайшоў на святочную імшу ў сабор, тут была моладзевая суполка, я пазнаёміўся з людзьмі, знайшоў сяброў", — дадае Дзяніс.

Паводле слоў хлопцаў, большасць людзей сёння падтрымлівае дзеянні ўлады. Нават крызіс не надта паўплываў на меркаванні.

"Вы ж бачылі расійскія навіны? Што ў тэлевізары паказваюць, тое ў людзей і ў галовах. "Крымнаш!" ды іншае", — кажуць яны.

Праблем каталіцкая Царква не мае. Але і ў палітыку не лезе.

Штогод пры канцы мая касцёл ладзіць свята пад назвай Дзень сям'і. У ім удзельнічае ўся парафія.

"У Маскве шмат розных каталіцкіх суполак: польская, французская, іспанская і г.д. І людзі ходзяць у адзін касцёл, але паміж сабой амаль не маюць зносінаў. І сэнс гэтага свята — іх усіх аб'яднаць, пазнаёміць. Падчас мерапрыемства праходзяць канцэрты, запрашаюцца і праваслаўныя, калі яны хочуць. І кожная суполка выстаўляе намёт, які прэзентуе краіну і яе культуру, кухню", — тлумачыць Дзяніс.

І другі год запар хлопцы ставяць на Дні сям'і беларускі намёт.

"Нашая суполка невялікая, — смяецца Раман. — Толькі мы ўдваіх".

У намёце хлопцы прадавалі дранікі. Каб іх прыгатаваць, яны адмыслова прывезлі з Беларусі беларускія прадукты.

"Прывезлі яшчэ печыва, вафлі, квас. Квас з Ліды ўсіх уразіў. Мы прывезлі скрыню, яна разышлася ў першы ж дзень. Заробак ад продажу ўвесь аддалі касцёлу, — кажа Дзяніс. — А летась мы павесілі два сцягі — дзяржаўны і бел-чырвона-белы. І беларусы падыходзілі і казалі пра бчб-сцяг: "Ого, крута! Малайцы!"

Сёлета свой намёт хлопцы аздобілі нацыянальным арнаментам. Яны самі склалі арнамент у фаташопе, а потым раздрукавалі сабе "вышымайкі".

Хлопцы не плануюць заставацца ў расійскай сталіцы назаўсёды.

"Я не магу ўявіць, што я пражыву тут усё жыццё", — кажа Раман.

З ім згодны і Дзяніс.

"Увосень я прыеду ў Беларусь. Спачатку пайду "здавацца" ў ваенкамат і, калі не забяруць у армію, застануся жыць у Віцебску, — кажа Дзяніс. — Бо вярнуцца дамоў — гэта мара".

*Улад Швядовіч, "Наша Ніва"*

# БРЫТАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ — ЗА МОВУ, БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ І "ПАГОНЮ"

У Беларускім Доме ў Лондане адбыўся 69-ы Агульны гадавы з'езд Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі.

З'езд пераабраў старшынёй Мікалая Пачкаева і абраў абноўлены склад Галоўнай Управы, ухваліў шэраг зменаў у статут, пачатковая версія якога датуецца 1948 годам.

Сярод гэтых зменаў — замацаваны прынцып адданасці беларускай мове, бел-чырвонаму-беламу сцягу і гербу "Пагоня" ў якасці нацыянальных сімвалаў.

Іншая змена ў Статуце замацоўвае, што Згуртаванне ставіць на мэце "падтрымліваць незалежную і дэмакратычную Беларусь на грунце прынцыпаў дэкларацыі незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка", а таксама развіваць супрацу з тымі арганізацыямі ў свеце, якія падзяляюць такія каштоўнасці і мэты.

"Можна зазначыць, што ў беларускай эміграцыі на Захадзе бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" заўсёды безальтэрнатыўна былі нацыянальнымі беларускімі сімваламі, і ніколі не ставілася пад пытанне, якая мова — нацыянальная мова беларусаў, а Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі яднала ў Вялікабрытаніі беларусаў на грунце прынцыпаў 25 сакавіка і падтрымлівала Раду БНР на выгнанні ад самага свайго заснавання ў 1946 годзе, — сказаў Пачкаеў. — Аднак цяпер у Брытанію прыязджае шмат беларусаў з былога СССР, з рознымі поглядамі і культурнай і моўнай арыентацыяй. Згуртаванне жадае надалей прыцягваць як мага шырэйшае кола новых асобаў да ўдзелу ў беларускім грамадска-культурным жыцці ў Брытаніі, захоўваючы, аднак, нязменна падмуркі свайго светагляду.

У тлумачальнай нататцы зазначана, што гэтыя змены маюць на мэце падкрэсліць, што ЗБВБ гуртуе людзей, для якіх важная беларуская гісторыя, мова, традыцыі ды нацыянальныя сімвалы, падтрымлівае незалежную і дэмакратычную Беларусь на падмурках прынцыпаў Дэкларацыі 25 сакавіка 1918 года. Раней асноўным крытэрам было беларускае паходжанне. Таксама дададзена, што арганізацыя супрацоўнічае з іншымі арганізацыямі і людзьмі, якія падзяляюць погляды ЗБВБ.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## ПРЫ МЗС БЕЛАРУСІ ПАЧАЎ ДЗЕЙНІЧАЦЬ КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫ САВЕТ ПА СУВЯЗЯХ З БЕЛАРУСАМІ ЗАМЕЖЖА

1 ліпеня 2015 года ў Мінску адбылося першае пасяджэнне Кансультацыйнага савета па сувязях з беларусамі замежжа. Савет быў створаны ў адпаведнасці з нядаўна прынятым законам "Аб беларусах замежжа". У склад савету беларускае дыпламатычнае ведамства запрасіла 32 прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў замежжа з 18 краінаў свету. Пасяджэнне складалася з 2 тэмаў – пра супрацоўніцтва ў галіне культуры і пра развіццё гандлёва-эканамічных стасункаў. На пачатку пасяджэння выступіў міністр замежных справаў Беларусі Уладзімір Макей, ён жа і падсумаваў пасяджэнне, адказаўшы на агучаныя пытанні і прапановы.

Ніна Шыдлоўская наступным чынам пракаментавала пасяджэнне ў інтэрв'ю "Радыё Рацыя": "Першае пасяджанне Кансультацыйнага савета па сувязях з беларусамі замежжа пры беларускім МЗС насіла хутчэй азнаямляльны характар".

Раней Савет па справах беларусаў замежжа дзейнічаў пры Міністэрстве культуры. "Пакуль невядома, ці папярэднія напрацоўкі будуць выкарыстоўвацца ў далейшай працы савета пры МЗС, – адзначыла Ніна Шыдлоўская. – Нейкіх канцэптуальных стратэгічных дакументаў ці планаў відавочна не прымалася. Гэта хутчэй пачатак працы. Мы ў свой час па запрашэнні Міністэрства замежных справаў прапаноўвалі спіс кандыдатур, якіх, як мы бачым, вельмі карысна і плённа было б на дзяржаўным узроўні ўключыць у гэтую Раду. На вялікі жаль, нашыя прапановы былі ўключаныя не ўсе. Але пэўныя асобы, якія з'яўляюцца сябрамі Бацькаўшчыны і сябрамі Рады, – прысутнічалі. І мы, два кіраўнікі "Бацькаўшчыны" – таксама ўключаны ў склад Рады".

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІПЕНЬ 2015 ГОДА

1 ліпеня – 15 гадоў таму памёр Рыгор Клімовіч (1924–2000), кіраўнік паўстання вязняў савецкага канцлагера ў Нарыльску, Расія (1953 г.).

5 ліпеня – 20 гадоў таму памёр Барыс Сачанка (1936–1995), пісьменнік, публіцыст. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

6 ліпеня – 30 гадоў таму, у 1985-м, памёр Пятро Сакол (сапр. Пётр Масальскі), паэт, перакладчык. Пахаваны на могілках Лачупе ў Рызе (Латвія). Нарадзіўся ў мяст. Пасінь (цяпер Латвія) 110 гадоў таму, 14 ліпеня 1905 года.

11 ліпеня – 130 гадоў таму ў в. Нецкі (цяпер Свянцянскі пав., Літва) нарадзіўся Францішак Рамейка (1885–1931), каталіцкі святар-адраджэнец.

11 ліпеня – 20 гадоў таму, у 1995-м, выйшаў першы нумар газеты "Народная воля". Рэдактар Іосіф Сярэдзіч.

13 ліпеня – 100 гадоў таму на фронце паблізу Каўнаса (Літва) загінуў Лявон Гмырак (сапр. Мечыслаў Бабровіч; 1891–1915), крытык, публіцыст, празаік.

13 ліпеня – 25 гадоў таму памёр Янка Багдановіч (1906–1990), пісьменнік, мемуарыст, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны на могілках Саўлес у Вільні.

15 ліпеня – 605 гадоў таму, у 1410-м, адбылася Грунвальдская бітва, разгром Тэўтонскага ордэна пераважна войскамі ВКЛ.

15 ліпеня – 115 гадоў таму ў в. Агароднікі (цяпер Пастаўскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Дубоўка (1900–1976), пісьменнік, перакладчык.

16 ліпеня – 10 гадоў таму, у 2005-м, у Нью-Ёрку (ЗША) памерла Яніна Каханоўская, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

16 ліпеня – 10 гадоў таму, у 2005-м, у Мінску пачаўся Чацвёрты з'езд беларусаў свету (доўжыўся 16–17 ліпеня).

19 ліпеня – 160 гадоў таму памёр Тамаш Зан (1796–1855), удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнавец, літаратар.

23 ліпеня – 120 гадоў таму нарадзіўся Міхаіл Сазыка (1895–1949), вайсковы дзеяч, спявак, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

27 ліпеня – 105 гадоў таму памёр Уладзіслаў Дыбоўскі (1838–1910), удзельнік паўстання 1863-1864 гг., заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог, фальклярыст.

27 ліпеня – 25 гадоў таму, у 1990-м, Вярхоўны Савет прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

28 ліпеня – 95 гадоў таму памёр Алесь Гарун (сапр. Аляксандр Прушынскі; 1887–1920), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, паэт. Пахаваны на Ракавіцкіх могілках у Кракаве (Польшча).

29 ліпеня – 95 гадоў таму, у 1920 -м, у Коўне (цяпер Каўнас, Літва) выйшла газета "Пагоня" (выдавалася штотыдзень да 31 снежня 1920 г.).

29 ліпеня – 55 гадоў таму памёр Тодар (Хведар) Данілюк (1877–1960), рэлігійны і вайсковы дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, ад 1950 г. жыў ў ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

29 ліпеня – 15 гадоў таму, у 2000-м, у Мінску адбыўся Усебеларускі з'езд за незалежнасць (1376 дэлегатаў).

## У МІНСКУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ АЎДЫЁКНІГУ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

У мінскай галерэі "Ў" адбылася прэзентацыя аўдыёкнігі Генадзя Бураўкіна, якая выйшла ў серыі "Голас паэта".

Выдаўцы аўдыёкнігі — Саюз беларускіх пісьменнікаў, студыя "Гукапіс" кампаніі "Прастора-бай" і "Арт-сядзіба". Сабралі запісы Алесь Калоша і Валер Мазынскі.

У вечарыне ўзялі ўдзел Віктар Казько, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч, Зінаіда Бандарэнка, а таксама сям'я паэта. Напачатку спявачка Таццяна Грышкевіч выканала песню "Малітва" на словы Генадзя Бураўкіна. Затым узяў слова старшыня СБП Барыс Пятровіч, які сказаў, што прысутнасць у залі стольких людзей азначае, што імя Бураўкіна вельмі шанаванае ў грамадстве. "Вельмі крыўдна, што дзяржава самаўхілілася ад ушанавання памяці такіх асобаў, як Генадзь Бураўкін, як Рыгор Барадулін, як Васіль Быкаў. Чыноўнікі прыходзяць і сыходзяць, а імя паэта будзе заставацца навечна".

У сваім выступе Уладзімір Някляеў адзначыў, што Бураўкін прадстаўляў Беларусь у ААН, калі краіна рабіла толькі першыя крокі як самастойная дзяржава, калі трэба было заяўляць пра сябе на ўвесь свет.

Зінаіда Бандарэнка распавяла пра часы, калі Генадзь Бураўкін узначальваў Белтэлерадыёкампанію, як ён "ператварыў саўковае тэлебачанне ў сучаснае".

Віктар Казько і Васіль Зуёнак прачыталі свае вершы-прысвячэнні Генадзю Бураўкіну. Літаратар Міхась Скобла сказаў, што жыццёвая пазіцыя Бураўкіна была незалежная, годная і некан'юнктурная.

Адзін з выдаўцоў Алесь Калоша сказаў, што каштоўныя не толькі вершы, якія начытаў Генадзь Бураўкін, але і гутаркі, якія не ўвайшлі ў аўдыёкнігу. Алесь Калоша плануе выдаць гэтыя гутаркі на асобным аўдыёдыску.

Сын паэта Аляксей Бураўкін сказаў, што голас, як і фотаздымак, многа гаворыць пра яго бацьку:

"У гэтым голасе ніколі не было фальшу, хітрасці ці кан'юнктурнасці", — адзначыў Аляксей.

На вечарыне гучалі вершы з аўдыёкнігі ў выкананні Генадзя Бураўкіна.

Раней у гэтай серыі выйшлі аўдыёкнігі Ніла Гілевіча і Уладзіміра Някляева.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## СВЯТКУЕМ АДМЕТНА! НОВЫЯ ПАШТОЎКІ ПРА БЕЛАРУСКІЯ СВЯТЫ АД "БУДЗЬМА!"

Кампанія "Будзьма беларусамі!" запусціла "Кола святаў" — новы пазітыўны набор з васьмі паштовак пра беларускія традыцыйныя святы на англійскай і беларускай мовах.

Набор ілюстраваны малюнкамі маладой мастачкі Ангеліны Коршунавай і ўвасобіў яе дыпломную працу, дапрацаваную пры дапамозе кампаніі і знаных спецыялістаў. Тэксты — лёгкія і пазітыўныя, зробленыя на просьбу арганізатараў пісьменніцай Марыяй Мартысевіч, расказваюць гісторыю святаў, звязаныя з імі традыцыі і даюць некалькі вясёлых парадаў па святкаванні ў сучасных умовах.

"Набор паштовак "Кола святаў" — гэта наша спроба наглядна, з гумарам, коратка і запамінальна данесці інфармацыю, абудзіць інтарэс да спадчыны ў сучаснага беларуса, прывабіць прыгажосцю беларускага арнаменту. Дзеля гэтага мы ўсе і стараліся", — кажа мастачка Ангеліна.

Набор паштовак ужо можна набыць у інтэрнэт-крамах knihi.by, prastora.by і imbryk.by, сталічных кнігарнях.

Будзьма з беларускімі святамі!

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" і аўтар малюнкаў выказваюць падзяку: Настассі Рыжанковай (кіраўнік дыпломнага праекта), Вользе Лабачэўскай (доктар мастацтвазнаўства), Таццяне Валодзінай (доктар філалагічных навук) за дапамогу ў рэалізацыі праекта і кансультацыі.




*Паводле budzma.by*

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў ліпені: **Марыну Адамовіч, Алега і Наталлю Гардзіенкаў, Барыса Пятровіча, Алеся Станкевіча** (Беларусь), **Ганну Сурмач** (ЗША), **Захара Шыбеку** (Ізраіль), **Алега Давідзюка** (Літва), **Любоў Адаскевіч, Сяргея Кандыбовіча** (Расія), **Віталя Бартохава** (Украіна) і **Артура Цурбакова** (Эстонія).



Зычым усім імяніннікам радасных падзеяў, гумору, творчых здзяйсненняў і выдатнага здароўя!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## АБВЕСТКА

Шаноўныя чытачы!

Як вы ведаеце, бюлетэнь "Беларусы ў свеце" даступны ў сеціве. Яго можна спампаваць на нашым сайце zbsb.org. Таксама вы можаце падпісацца на яго праз сайт ці напісаўшы нам на zbsb.minsk@gmail.com. Электронную версію бюлетэня вы можаце праглядаць на камputары або раздрукаваць самастойна.

Акрамя таго, мы працягваем дасылку бюлетэня ў папяровым выглядзе. Аднак друк бюлетэня сёння вымагае значных выдаткаў. Сяброўскія ўнёскі ў нашай арганізацыі добраахвотныя і, на жаль, яны паступаюць толькі зрэдчас. Мы існуем ва ўмовах досыць абмежаваных рэсурсаў.

Таму мы просім падпісчыкаў, якім дастаткова электроннай версіі нашага бюлетэня, паведаміць нам аб гэтым.

*Рэдакцыя*

## ВІНШУЕМ АЛЕНУ МАКОЎСКУЮ!



1 ліпеня юбілей святкуе кіраўнік Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская!

З такой цудоўнай нагоды мы з прыемнасцю віншуем нашую шаноўную юбілярку!

Няхай ваш настрой заўжды будзе летні і сонечны, на душы будзе бясхмарна, а кожны дзень прыносіць пазітыўныя ўражанні!

Зычым вам заставацца такой жа жыццярадаснай і лагоднай, квітнець у любое надвор'е і адчуваць сябе шчаслівай кожную хвіліну!

*Управа і супрацоўнікі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (158), чэрвень 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава.
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская.
Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27